

# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 21 (49) 7—13 ліпеня 1993 г. Цана 3 рублі

## Лёнік Тарасэвіч у Віцебску

По прыватнаму запрашэньню ў сярэдзіне чэрвеня горад наведаў вядомы беларускі мастак зь Беласточчыны Лёнік Тарасэвіч. Ен агледзеў Стары горад, пабываў у майстэрнях віцебскіх мастакоў Алеся Пушкіна, Галіны і Васіля Васільевых.

Інтэрвію з мастаком чытайце ў адным з наступных нумароў «Выбара».

**М. ПАЎЛАЎ.**



Фота А. Лакатко.

## Тут пачынаўся шлях...

На Ушаччыне, адкуль пачынаўся творчы шлях Пятруся Броўкі, Еўдакіі Лось, Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Сяргея Законнікава, у гадавіну вызвалення краю ад фашысцкіх захопнікаў абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў ды аддзел культуры аблвыканкама зладзілі традыцыйнае абласное свята паэзіі.

Два дні тут гасцявалі, выступалі на літаратурных і музычных імпрэзах у раённым доме культуры і на радзіме Броўкі—у Пуцілкавічах—паэты Марыя Баравік, Вера Бародзіч, Тамара Барадзёнак, Галіна Варатынская, Навум Гальпяровіч, Ірына Дарафейчук, Алесь Жыгуноў, Анатоль Канапелька, Яўгенія Мальчэўская, Алег Салтук, Святлана Якубоўская, празаікі Ірына Жарнасек ды Герман Кірылаў.

**М. ВАЛАЧОБНІК.**

## НА 6-ЦІ СТАРОНКАХ:



## ЗАЯВА

### выканаўчага камітэта Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады «Аб становішчы ў краіне»

**Прайшло больш за тры месяцы, калі пракамуністычныя, праімперскія сілы на Беларусі адкрыта пацвердзілі, што яны па-ранейшаму кіруюць дзяржавай. Гэта адбылося, калі да так званага «Народнага руху Беларусі», куды ўваходзілі ПКБ, КПБ, фракцыя «Саюз» Вярхоўнага Савета, Славянскі сабор, Саюз афіцэраў і іншыя арганізацыі, далучылася праўрадавае дэпутацкае аб'яднанне «Беларусь» Вярхоўнага Савета. Такім чынам, «Народны рух Беларусі» стаў кантраляваць урад, большасць у Вярхоўным Савеце, чым і засведчыў сябе кіруючай сілай на Беларусі.**

**Што ж дало канчатковае вяртанне камуністаў да ўлады ў складзе камуністычна-наменклатурнага, праімперскага блоку! Можа, вярнуліся танная калбаса і цукар! Не. Але за гэтыя тры месяцы адбылося далучэнне да небяспечнага ваеннага саюзу з ваюючымі краінамі Сярэдняй Азіі і Закаўказзя. У войску пачалося вынішчэнне парасткаў дэмакратыі і дзяржаўнага патрыятызму. І нарэшце, мы атрымалі рэзкае павышэнне цэнаў пры пустых паліцах у крамах і рэальную пагрозу энергетычнага крызісу.**

**Дэпутацкая большасць у Вярхоўным Савеце разам з урадам замест таго, каб займацца рэформамі, з надзеяй чакалі—калі ж нарэшце ў Расіі «чырвона-карычневыя» экстрэмісты здолеюць дабіцца адстаўкі Прэзідэнта Ельцына і можна будзе пакінуць усё без зменаў. Але яны дачакаліся эканамічнага краху, і цяпер не ведаюць, што рабіць. Кіраваць па-старому ўжо нельга, па-новаму яны не ўмеюць, а галоўнае, што правячай наменклатуры ўжо не патрэбен былы сацыялізм і яшчэ не патрэбна цывілізаваная рынкавая эканоміка. Яе цалкам задавальняе становішча, калі ў мутнай вадзе безгаспадарчасці і беспакаранасці можна лавіць «вялікую рыбу», каб будаваць шыкоўныя асабнякі і купляць «Мерседэсы». Да якога стану такое «рыбалоўства» даводзіць эканоміку, можна пераканацца па цэнніках у крамах.**

**Выканаўчы камітэт БСДГ лічыць, што наменклатурны, пракамуністычны ўрад наказаў сваю няздольнасць кіраваць краінай у сучасных умовах і павінен пайсці ў адстаўку, пакуль правячая наменклатура не паспела дашчэнту разбурыць нашу эканоміку і поўнасцю завяршыць «прыхватызацыю» дзяржаўнай маёмасці. Кіраванне краінай павінна быць перададзена кааліцыйнаму ўраду народнага даверу. БСДГ таксама патрабуе неадкладнага правядзення рэферэндуму аб даверы Вярхоўнаму Савету і датэрміновых выбарах. БСДГ заклікае ўсе здаровыя сілы грамадства да каардынацыі намаганняў, каб прымусіць сысці з палітычнай арэны тых, хто, чапляючыся за ўладу, з кожным днём усё больш цягне нас у бездань эканамічнай катастрофы і анархіі.**

## Мо і назва не беларуская!

На нарадзе ў гарвыканкаме прадстаўніца гандлёвага аддзелу ўпікнула МП «Купальле» і ягоную краму па вул. Гогаля, 14, што, маўляў, адсутнічаюць на прылаўках беларускія тавары, адны польска-маскоўскія шмоткі. Цікава, якая ж з віцебскіх крамаў прадае кніжак і сувеніраў зь беларускай сімволікай болей, чым «Купальле»? Ці можа кераміка «Купальля» для гандлёвага адзьдзелу небеларускі тавар, гэтак, як і беларускія кніжкі?

**М. ЦЮПАТКА.**

## У новым рэчышчы

Частка дэлегатаў Першага з'езда беларусаў свету наведала Полацк, пабывала з экскурсіяй у Астроўна, пабачыла стары Віцебск. У будынку Акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа віцебская грамадскасць сустрэлася з удзельнікамі з'езду.

Гэтае традыцыйнае ўжо (бо трэці год запар) спатканне з беларускімі эмігрантамі прайшло ў крыху новым рэчышчы. Сёлета геаграфічныя рамкі пасунуліся—апроч частых на Віцебшчыне гасцей з Канады і ЗША прыехалі й аўстралійцы. Не чуліся і набіўшыя аскоміну пытанні тыпу «А як вы там жывяце?».

Беларусы замежжа з болем гаварылі пра вынішчэнне беларушчыны на Бацькаўшчыне, аб маруднай адбудове незалежнай дэмакратычнай краіны Беларускай.

**Н. ПРЫСУТНЫ.**

## «Падарунак» да з'езда беларусаў свету

У 600 разоў павысіўся за апошнія гады кошт авіялістоў за мяжу. З 1 ліпеня ён узляцеў з 101 да 301 рубля. Канешне ж, выраслі цэны і на іншыя паштовыя адпраўленні за граніцу.

**Наш кар.**

## Апетыты растуць

Напэўна, працоўным ВА «Даламіт» ды і шырокай грамадскасці Рубы яшчэ невядома, але гэта факт. Калі ў лютым не выдалі аванс рабочым прадпрыемства, дык набылі «Волгу», «РАФ», а потым і ГАЗ-69. А калі ў красавіку не было авансу, дык набылі ўсяго «Форд». Аднак то дробязь, ёсць у запасе яшчэ 6 мільярдаў крэдыту. Трымайцеся, капіталісты! Мы і Вас купім.

**Ігнат ВАСІЛЕЎСКІ.**

## І адзін у полі воін

Сябра Віцебскай гарадской арганізацыі АДПБ І. Глазуноў распачаў збор подпісаў у падтрымку пазіцыі С. Шушкевіча, які выказаўся за нейтральную парламенцкую Рэспубліку Беларусь.

**Ю. С.**

## Прыватызавалі вуліцу!

У грамадскую камісію па кантролю за раскрадальніцкай дзейнасцю апарата паступіла паведамленне, што з парушэннямі заканадаўства ў вёсцы Шаркі, якая адносіцца да калгаса-камбіната «Звязда» Віцебскага раёна, набыта ў прыватную ўласнасць 6 калгасных дамоў з надворнымі будынкамі—цэлая вуліца. З мэтай высніць законнасць здзелкі прадстаўнікі камісіі звярнуліся да намесніка старшыні калгаса М. Рубашкі, аднак той чамусьці адмовіўся паказаць дакументы, што датычацца продажу калгасных дамоў.

Таму грамадская камісія і рэдакцыя газеты «Выбар» звяртаюцца ў інспекцыю Кантрольнай палаты з просьбай праясніць узнікшыя пытанні. Хто канкрэтна набыў дамы, калі і па якой цане? Ці ёсць якія-небудзь дакументы на гэты конт? Спадзяёмся, што чытачы атрымаюць адказы на пытанні.

Грамадская камісія па кантролю за раскрадальніцкай дзейнасцю дзяржапарату працягвае сваю работу. Яе тэлефоны: **37-28-44, 37-35-06.**



